Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 31. Вільня, Серада, 10-га сьнежня 1924 г. Год I.

## Першы варунак.

Уваход п. Тугутта ў склад польскага ўраду, як віцэ-прэм'ера, усемі тлумачыцца, як *запаведзь перамены ўрадавае палітыкі ў адносінах да „нацыянальных меншасьцяў“*.

Гэтаму не пярэчыць і сам п. Тугутт. Прынамся, як мы чулі, ён зьбіраецца запрасіць у „крэсавую раду“ не адных толькі палякоў, але і прадстаўнікоў *беларусаў і ўкраінцаў*.

Ці пойдуць туды апошнія — гэта йшчэ няведама. Але, незалежна ад таго, як п. Тугутт павядзе справу „санацыі“ нацыянальных адносінаў у Польшчы, незалежна ад нашага прынцыновага становішча ў гэтай справе, мы ўжо сяньня можам сказаць адно.

П. Тугутт ужо зрабіў адну спробу правясьці гэтую „санацыю“: ён—разам з эндэцкім лідэрам Ст. Грабскім — выпрацаваў таксваныя „языковыя ўставы“. Праўда, уставы гэныя значна абразаюць правы беларускага народу, забясьпечаныя міжнародавымі трактатамі і польскай канстытуцыяй, — але, калі прыпомнім, што і самая канстытуцыя йшчэ далёка не праведзена ў жыцьцё, дык тугуттаўскія законы *маглі-бы* хоць у малой частцы здаволіць законныя дамаганьні беларусаў: пераТварэньня польскіх школ у беларускія, дапушчэньня беларускае мовы ў урадаваньне і г. п.

Мы сказалі „маглі-бы“, бо... на дзеле мы гэных законаў так і *ня ўбачылі*, хаця Сойм пастанавіў, што яны мецімуць сілу ад 1 кастрычніка с. г. Урад усё гаворыць: „заўтра, заўтра!“, час ідзе, месяц мінае за месяцам,— а ў нас ня толькі не адчынілі дагэтуль ніводнае беларускае дзяржаўнае школы, але, наадварот, пазачынялі рад істнаваўшых *да* тугуттаўскіх законаў, і нашых дзяцей заганяюць у польскія школы, пагражаючы цяжкімі штрафамі...

Тугуттаўскія законы *не ўвайшлі ў жыцьцё*, а... асталіся толькі на паперы! І гэты факт, прадугледжаны і беларускай ідэйнай прэсай, і нашымі дэпутатамі ў Сойме, аканчальна падкапывае ў вачох беларускага насяленьня ўсякую веру ў заўпраўднасьць жаданьня польскага ўраду правясьці „санацыю“ нацыянальных адносінаў у Польшчы. Ствараецца з кожным днём усё больш моцнае перакананьне, што гэныя „языковыя“ законы запраўды былі патрэбны адно дзеля таго, каб... паказаць іх на апошняй сэсіі Лігі Народаў!

Раз законы аб „меншасьцях“ істнуюць у Польшы адно *толькі дзеля паказу, толькі дзеля заграніцы*, дык зусім натуральна ўзьнімаецца ў нас, беларусаў, пытаньне: на што-ж *нам* патрэбны гэныя „мёртвыя душы“? І адказ на гэтае пытаньне—лішне ясны, каб яго трэба было паўтараць!

Калі-ж так, дык *дзеля чаго „меншасьцям“ ісьці ў камісію п. Тугутта*? Ці адно толькі на тое, каб зрабіць від, быццам у Польшчы запанавала „сьвятая згода“ паміж народамі, што так добра будзе выкарыстана п. Тугуттам і яго калегамі дзеля заграніцы?

Не, мы глыбака перакананы, што ўваход нашых прадстаўнікоў у камісію п. Тугутта да таго мамэнту, *пакуль ня будуць праведзены ў жыцьцё „языковыя“ ўставы*, быў-бы і бязьмэтным, і з тактычнага боку — шкодным для беларускае справы. Бяз гэтага ўступнага варунку, бяз цьвёрдых гарантыяў зьдзейсьненьня нашых законных правоў—усякае супрацоўніцтва нашых прадстаўнікоў з урадам было-бы толькі *шкоднай і недастойнай камэдыяй*.

## Ліга Народаў і нацыянальныя меншасьці

Ліга Народаў улетку с. г. апублікавала справаздачу аб сваей дзеяльнасьці ў справе абароны правоў нацыянальных меншасьцяў у краёх Усходняе Эўропы.

Дзеля ўмацаваньня абароны правоў меншасьцяў заключаны дагаворы паміж дзяржавамі Антанты, з аднаго боку, і Чэхаславакіяй, Польшчай, Югаславіяй, Румыніяй, Аўстрыяй, Баўгарыяй і Вэнгрыяй — з другога боку. Асобныя дагаворы заключаны таксама з Турцыяй і Грэцыяй. Літва апублікавала спэцыяльную дэклярацыю аб правох нацыянальных меншасьцяў у яе межах; гэтая дэклярацыя таксама перададзена ў Лігу Народаў. Латвія і Эстонія падалі ў Лігу асобныя мэмарандумы, датычачыя гэтага пытаньня.

У-ва ўсіх вышэй паказаных выпадках Ліга мае права ўмешавацца ў-ва ўсе справы, датычачыя нацыян. меншасьцяў.

Умовы, абгавораныя ў-ва ўсіх гэтых дакумэнтах, наагул вядомы. Перад усім яны павінны забясьпечыць жыцьцё, маемасьць і свабоду рэлігіі ўсім грамадзянам краёў, з якімі заключаны дагаворы. Далей, гэтыя ўмовы прадугледжваюць: зраўнаньне правоў меншасьцяў з правамі большасьці; свабода ўжываньня меншасьцямі свaёй нацыянальнай мовы ў прыватным і грамадзкім жыцьці, у друках, на сходах, урадах, у судзе, у школе і г. д.; законы вырачэньня і набываньня абыватэльства; права арганізаваньня меншасьцямі асобных узгадаваўчых, рэлігійных, дабрадзейных і сацыяльных інстытуцыяў; карыстаньне моваю меншасьці, як выкладоваю мовою, у школах на тых землях, дзе гэтая меншасьць жывець у значнай лічбе.

Калі якая-небудзь дзяржава не спаўняе гэтых умоваў, ці знаходзіцца напярэдадні неспаўненьня гэтага, — дык сябры Рады Лігі Народаў, або дзяржавы, не ўваходзячыя ў склад Рады, **або бэспасрэдна самі нацыянальныя меншасьці — маюць права зьвярнуцца да Лігі Народаў з скаргай.** Але гэтая скарга павінна адпавядаць ніжэй паданым пяцём варункам:

а) у яе зьмесьце павінна быць гутарка аб абароне правоў меншасьці толькі ў межах заключаных дагавораў;

б) у скарзе не павінна быць просьбы аб аканчальным аддзяленьні меншасьці ад тэй дзяржавы, дзе гэтая меншасьць цяпер знаходзіцца;

в) скарга ня можа быць анонімная ці пазбаўленая аўтарытэтнасьці;

г) яна не павінна быць зложана ў лішне рэзкіх выразах;

д) яна павінна быць падмацована ведамасьцямі і фактамі, яшчэ ня быўшымі падставай для якойнебудзь другой скаргі, якая была ўжо раней разгледжана Радаю Лігі Народаў.

Пры атрыманьні гэткай скаргі Сэкрэтарыят Лігі Народаў адсылае копію яе зацікаўленай дзяржаве. Калі апошняя згодзіцца на перадачу скаргі на разгляд Рады Лігі Народаў, — дык справа перадаецца туды безадкладна, і зацікаўленая дзяржава абязана ў працягу двух месяцаў падаць свае аб'ясьненьні. Калі-ж яна спрацівіцца перадачы справы Радзе, дык справа перадаецца Старшыні Рады на яго разгляд і пастанову. Калі дзяржава, на якую паступіла скарга, ня прымець пастановы Рады Лігі Народаў, дык уся справа перадаецца Гааскаму Міжнародаваму Трыбуналу.

М.

## Прамова дэпутата Ф. Ярэміча

*на паседжаньні Сойму 4.XII. 1924 г. ў часе дыскусіі аб дадаткавым бюджэце міністэрства ўнутраных спраў на 1924 год.*

Высокая Палата! Ад некалькіх міністраў, як приступалі да ўрадаваньня, чулі мы заўсёды гэтае завярэньне, што яны будуць імкнуцца да таго, каб можна было паправіць адносіны і зьмяніць ды палепшыць адміністрацыю на „Усходніх Крэсах“. Аднак-жа ў працягу гэтых двух гадоў мы чакалі на гэтую паправу, чакалі на гэтую перамену адносінаў, на гэтую перамену адміністрацыі на „Усходніх Крэсах“, але, на жаль, вынікі аказаліся зусім адваротныя. Сягоньня міністэрства ўнутраных спраў прыходзе ў Высокую Палату не з направай адносінаў, але з бюджэтам, і то даволі паважным, бо блізу на 33 міліёны польскіх злотых. І мала таго, што прыходзе з бюджэтам, але і кажа, што „мы, міністэрства ўнутраных спраў, зрабілі ўжо шмат, ды нічога парадзіць ня можам, мусім паклікаць войска дзеля завядзеньня ладу і, кажучы парасейску, „усьмірэньня“ гэтых Усходніх „Крэсаў“.

А хто-ж будзе плаціць гэныя 33 міліёны? Той беларускі народ, які й сёньня йшчэ сядзіць у зямлянках? Беларускі народ, дзеці якога мруць ад гарачкі ў гэных зямлянках? А што-ж народ за гэта дастае?

Ці беларускі народ дастаў ад ураду за гэтыя некалькі гадоў хаця адзін грош на школы? Заяўляю, што не! Ці дастаў на адбудову? Заяўляю, што не! Ці дастаў на зямельную рэформу? Заяўляю, што не! Ці дастаў крэдыты на гаспадарку? Гэтак сама не! Дык з чаго-ж гэты беларускі народ будзе плаціць?

Затое гэты беларускі народ дастаў паліцыю і дастаў войска.

Ня буду казаць аб паліцыі, пане міністар, бо вельмі многа маем фактаў, дый вельмі шмат аб гэтым гаварылася, вельмі шмат і галосна пісалася ў прэсе ўсяе Польшчы. Маем цэлыя кіпы надужыцьцяў, нялюдзкага катаваньня, жорсткіх паступкаў і сярэднявечных мукаў. Дык ня буду Высокай Палаце займаць гэтым часу і перайду да тых спраў, якія дзеюцца сяньня, — перайду да войска.

Войска раскватаравана па хатах сялян, якія з гэткім трудом і цяжкай працай здабылі сабе гэныя хаты. Цяпер войска выкідае гэтых грамадзян з іх хат у хлявы! Войска бярэ пошыр, прадукты і рэчы першае патрэбы і выдае на гэта квіты, а з гэтымі квітамі людзі будуць хадзіць да суднага дня, і ніхто ніводнага граша не дастане. Але падам вам, панове, яшчэ адну красачку.

Вось, прыходзе войска, выкідае беларускіх дзяцей з гімназіі і займае яго сабе на жыльлё. Людзі зварачаюцца да паслоў, паслы да ген. Мінкевіча, а ген. Мінкевіч адказуе, што толькі што даў загад, каб памяшчэньне было звольнена. Чакаем месяц і кватэра ня звольнена. Зварачаюся да гэн. Мінкевіча, а ген. Мінкевіч — пры разглядзе бюджэту ў бюджэтнай камісіі — урачыста перад усей камісіяй (а было тады многа сяброў) заяўляе, што даў загад, які хутка будзе споўнены. Чакаем яшчэ тры тыдні, аднак памяшчэньня не звальняюць. Тады іду да прысутнага тут п. міністра, зварачаюся да яго. І п. міністру гавораць, што загад дадзены, аднак-жа загад гэты ня споўнены. П. міністар кажа, што лепш бы хацеў, каб такіх загадаў, якіх не выпаўняюць, лепш зусім не давалі,— але парупіцца, каб гэта было зроблена, ды назаўтрае выясьніць гэту справу. Тым часам, учора я дастаў тэлеграму гэткага зьместу: „Кватэра дагэтуль занята. Магістрат звальненьне памяшчэньня стаўляе ў залежнасьць ад вынаходу беларускай гімназіяй адпаведнага будынку для войска“.

Я пытаюся ў п. міністра: калі паны генаралы Мінкевічы прыходзяць з гэткімі паважнымі бюджэтамі на 17 міліёнаў злотых, калі паны генаралы істнуюць толькі дзеля таго, каб даваць загады, а гэных загадаў ніхто не спаўняе, і няма ніякае экзэкутывы, каб яны былі споўнены, — дык ці гэныя генаралы адпаведныя на сваіх становішчах? Калі не,—дык няхай-жа яны зробяць з гэтага вывады, а п. міністар—таксама.

У свой час з гэтае самае трыбуны я гаварыў, што, калі паны хочаце, каб беларускі народ шукаў і сам сабе рабіў справядлівасьць, калі паны хочаце, каб сам шукаў сабе здаваленьня, — дык ён будзе шукаць і знойдзе. І мы сягоньня

бачым праявы таго, што беларускі народ шукае гэтага здаваленьня. Пане міністар, я пытаюся ў вас: калі дом гімназіі заняты незаконна, калі з цэнтру загадана звольніць, але яго ня звольнілі,— дык калі беларускае насяленьне прыйдзе і сілай выкіне гэных жаўнераў, што тамака сідзяць, — дык п. міністар аддасьць гэтых людзей пад даразны суд, як напаўшых бандытаў. Але пытаюся: ці п. міністар і п. генарал Мінкевіч аддалі пад суд тых, хто ня споўніў вашых загадаў? Праўдападобна, не!

А цяпер колькі слоў аб адміністрацыі.

Міністэрства ўнутраных спраў абсалютна ня цікавіцца тымі справамі, якія дзеюцца на „Усходніх Крэсах“. Яго зусім не абходзе тое, што йшчэ па сёньняшні дзень тут маюць сілы ўставы генаральнага камісара цывільнага ўраду Усходніх Зямель, ці п. генарала Жэліговскага, ці іншых прыфронтовых камандантаў. І прадстаўце себе, у якім палажэньні знаходзіцца ўрадовец, які мае перад сабой цэлыя горы гэтых загадаў і ўставаў! Вось-жа ён паступае так, як яму выгадней, і калі правініцца проці аднаго ўставу, дык абароніцца другім, і, бязумоўна, яго нельга будзе пацягнуць да адказнасьці, бо ён заўсёды можа апраўдацца ўставамі, якія па сягоньняшні дзень яшчэ абязываюць.

Міністэрства ўнутраных спраў аб гэтым яшчэ не падумала: міністэрства займаецца другімі справамі, а іменна прэтандуе на роль законадаўцы.

Маю тут на мысьлі языковыя ўставы. Калі Сойм зацьвярджаў гэтыя языковыя ўставы, а мы прадбачылі і гаварылі з гэтае трыбуны, што гэта робіцца спэцыяльна дзеля заграніцы, дзеля абаламучаньня Лігі Народаў, — дык вы з таго боку Палаты крычалі нам, што мы здраднікі, ворагі дзяржавы, рэвалюцыянеры і г. д. Вось жа я пытаюся цяпер гэных паноў, якія крычалі, — ці мы ня мелі рацыі, ці мы казалі няпраўду? Бож, далібог, пане міністар, можна йшчэ вымагаць, каб беларус давёў сваё абыватэльства, хоць, на жаль, 99 працантаў беларускага насяленьня ня мае гэтага абыватэльства і дастаць яго ня можа: у нас ёсьць адлежнасьці па 100 кілямэтраў да пана старосты, дый, калі пан X паедзе да старосты, ды яго затрымае першы пастарунковы і адашле да хаты па этапу, бо ён ня мае „доваду асабістага“... Але, пытаюся ў п. міністра, якім спосабам гэтыя нешчасьлівыя грамадзяне беларусы, якія здалеюць давясьці сваё абыватэльства, давядуць, што яны належаць да беларускае нацыянальнасьці? Гдзе гэты крытэрый? У Польшчы ёсьць адна нацыянальнасьць, якая можа гэта даказаць,—але беларусы, на жаль, зрабіць гэтага ня могуць.

А цяпер, панове, я пераходжу да сучаснага стану рэчаў і да таго, што мы сяньня разглядалі ў адміністрацыйнай камісіі, а іменна праект выняткowага стану. Дзіўным крыху здаецца, але для мяне гэта рэч зразумелася, што як правіца, так і паважаная лявіца гэтае Высокае Палаты выходзяцца на адным пункце, а іменна, што ў Польшчы на „Усходніх Крэсах“— блага, што патрэбна паправа, але патрэба толькі эканамічная паправа, ці некаторыя сацыяльныя рэформы, а нацыянальнае пытаньне ня існуе. І гэта кажуць як на правіцы, так і на лявіцы. Вось жа сьмею тут сказаць, што беларускае нацыянальнае пытаньне істнавала яшчэ тады, калі ня было незалежнае польскае дзяржавы, істнуе сяньня і будзе істнаваць. Беларускі народ здабудзе належнае яму права, не аглядаючыся на тое, сколькі ахвяр будзе каштаваць дабываньне яго правоў.

Паны кажаце, што будзеце гаварыць з беларускім насяленьнем праз нашыя галовы. Гэта вы можаце рабіць, але ня ведаю, ці народ будзе з вамі гаварыць праз галовы сваіх правадыроў,—гэта вялікае пытаньне. Беларускі народ ня дасьць грошы на гадоўлю галубоў і закладаньне радыотэлефонаў, як сказаў генарал Янушайтіс, бо на гэта ня хопіць грошы ня толькі ў беларускай люднасьці, але і ў польскай. Ня дасьць і на гадоўлю сабак па вёсках, як казаў п. ген. Мінкевіч, на будаваньне для іх дамочкаў, ці пакоікаў у дамох,— бо, пане генарале ці пане міністру, трэба перш пабудаваць хаты для сялян, якія жывуць у зямлянках, для дзяцей, што мруць ад гарачкі, а не для сабак!

На ўсё гэнае беларускі люд грошы ня дасьць. На бліндажыкі і фортыфікацыі ў абшарнікаў беларусы так сама грошы не дадуць, бо на гэта маюць грошы паны абшарнікі. Маюць і асаднікі, бо ім урад даець.

На паліцыю, якая катуе беларускую люднасьць, на войска, каторае, як кожнае войска наагул, робіць рэквізіцыі, на даразныя суды і на выкіданьне дзяцей з школаў беларускі народ грошы ня дасьць! (Вялікі шум на правіцы).

Дзеля гэтага прадстаўнікі беларускага народу будуць галасаваць за тое, каб бюджэт міністэрства ўнутраных спраў быў адкінуты.

# Прамова дэп. Б. Тарашкевіча

*у часе дыскусіі ў Сойме аб бюджэце міністэрства зямельных рэформ 4 сьнежня 1924 г.*

„Зямельная рэформа“—колькі разоў чулі мы гэтае пекнае слова! Ад 1919 году беларускаму народу званілі над вухам аб зямельнай рэформе, скланяючы гэтае слова на ўсе лады. Польскі Устаноўчы Сойм нават зацьвярдзіў устаў аб зямельнай рэформе, а калі польскія войскі йшлі ўперад на ўсход, дык усюды казалі, што нясуць на сваіх штыках ня толькі волю ўцісканым народам, але і зямельную рэформу. І вось цяпер — цераз колькі гадоў—мы бачым, якая была праўда ў гэных словах. Замест зямельнае рэформы нам прынесьлі толькі асадніцтва, а зямельная рэформа прыслужылася не сялянам, але абшарнікам, бо, калі-б гэнага ўставу аб зямельнай рэформе зусім ня было, дык шмат больш зямлі перайшло-бы ў рукі дробных уласьнікаў, чым за той час, калі гэны ўстаў быў прыняты. Устаў аб зямельнай рэформе спыніў пераход зямлі ў рукі дробных уласьнікаў і ўратаваў абшарнікаў.

Мне часта здаецца, што большасьць партыяў у гэтай палаце мае нейкі інтэрас у тым, каб зямельная рэформа ня была зьдзейсьнена. Кожная партыя носе гэтую рэформу за пазухай, а, ідучы да сваіх выбаршчыкаў, паказуе і кажа: я вам правяду зямельную рэформу. Калі-б зямельная рэформа запраўды радыкальна была праведзена, дык вельмі многа партыяў у гэтай палаце ня мелі-бы што рабіць. (**Голас**: справядліва!). Зямельнае рэформы ня было, няма, і вы, паны, гэтае рэформы ня зробіце, бо ня хочаце яе зрабіць. Зямельную рэформу зробе хіба сам народ, калі сам возьмецца дзяліць зямлю. (**Голас**: Які народ?). Усякі народ: ня толькі беларускі і украінскі, але таксама і польскі,—і гэтага, паны, дачакаецеся! Вось-жа замест зямельнае рэформы маем асадніцтва, а міністэрства зямельных рэформ ёсьць ня што іншае, як міністэрства асадніцтва і калянізацыі, бо грошы, якія мае ў сваіх руках гэтае міністэрства, гэта большай часьцю грошы на асадніцтва, і толькі асадніцтвам гэтае міністэрства займаецца і апякуецца.

Панове, мы ўжо дужа добра зразумелі імкненьні ня толькі правага крыла гэтае Палаты, але і некаторых партыяў лявіцы: паводле іх разуменьня, зямельная рэформа—гэта перад усім асадніцтва, перанос польскага мужыка на беларускія і украінскія абшары, дзе, быццам-то, ёсьць вельмі шмат зямлі. Вось-жа гэнае зямлі тамака няма, і калі хто мае нейкія пляны, ды гэтак разумее правядзеньне зямельнае рэформы, дык ён—правакатар барацьбы паміж народамі. Панове, ані беларускі, ані украінскі народ далей гэтага цярпець ня можа. Ужо бачыце, панове, што народ адрухова, саматугам пачынае бароцца і, калі бачыце гэты одрух... (**Голас**: Гэтае падбураньне!). Гэта не падбураньне, ані інспірацыя з заграніцы, але гэта адруховая барацьба народу за ўласныя інтарэсы. Калі ў гэтым кірунку пойдзе так-званая зямельная рэформа, дык запраўды дачакаецеся таго, што я некалі сказаў з гэтае трыбуны: што сялібы калянізатараў пойдуць з дымам пажараў. (Вялікі шум).

Я не пагражаю падпалам, я хачу толькі паказаць тое, што ёсьць! І цяперака, панове, такім міністэрствам зямельных рэформ, якое ёсьць, такімі ўставамі, якія сяньня істнуюць, беларускі і украінскі народ ня дасьць сябе ашукаць.

Ясна, што нашы адносіны да гэнага міністэрства—зусім выразныя: будзем глядзець на яго, як на міністэрства асадніцтва і калянізацыі!

Гэтым даводзім да ведама паважаных грамадзян падпішчыкау, што усім, хто да 1 студня 1925 году не паведаміць нас ці жадае у новым 1925 г. атрымоуваць газэту і ня прышле падпіскі, высылка газэты будзе **спынена.**

# Дзіцячыя клюбы.

(Гл. № 30 „Сялянск. Праўда“).

## Клюбны лідэр.

Кожны сябра ў новаадчыненым клюбе выбірае сабе, як то кажуць, home project — што каму больш падабаецца. Але ад кожнага сябра абавязкова вымагаецца ўсю чыста працу спаўняць самому.

Толькі гэта яшчэ ня значыць, што дзіця застаецца бяз жаднае дапамогі, або застаецца на самавольства лёсу. Наадварот, на яго незмардавана са ўсіх бакоў глядзяць вочы і тутэйшага агранома, і клюбнага лідэра і дэлегата ад улады.

Вялікую роль у жыцьці дзіцячых клюбаў мае клюбны лідэр (club leader).

Клюбны лідэр звычайна бывае ці вясковы вучыцель, ці вучыцелька, або які небудзь сьвядомы селянін. Гэты клюбны лідэр абыходзіць сяброў свайго клюбу, цікавіцца дзіцячаю працаю, дае парады і заўсёды знаходзіцца на клюбным паседжаньні. Ад яго-ж у пачатку кожнага месяца дзеці атрымліваюць сельска-гаспадарскую літэратуру, кніжкі, журналы, апрача таго друкаваныя ці адбітыя на пісальнай машынцы пісьмы з адказамі на ўсялякія пытаньні.

Трэба заўважыць, што ў Амэрыцы ўсё робіцца дзеля таго, каб дзіцячая сельска-гаспадарчая і зямляробская літэратура выкладалася простай і выразнай мовай.

## Праца дзяцей сяброў клюбу.

Дзіцячыя клюбы ў Амэрыцы бяруць назоў ад сваей працы.

Калі ў якім-небудзь клюбе ўсе чыста дзеці захочуць, напрыклад, гадаваць качак, дык клюб атрымае назоў „качыны клюб“, а калі не, дык клюб лічыцца мешаным.

Кожны клюб мае сваю ўласную ўмову працы. З ўсіх чыста клюбаў у Амэрыцы вялікаю ўвагаю карыстаюцца клюбы збожжа. Кожны сябра гэтага клюбу павінен старанна трымацца ўмовы:

1) Самому араць і сеяць.

2) Зямлю, якую дастане сябра дзеля спробы сеяць збожжа, абавязкава трэба зьмерыць пры двух сьведках.

3) Гэтак-жа пры сьведках трэба зважыць і ўраджай і аднясьці ў клюб разам з пісаным рэфэратам аб сваей працы.

Апрача таго, кожны сябра павінен вясьці дняўнік сваей працы і сваіх уражаньняў.

Дзеці, якім больш падабаецца занятак з жывёлаю, дастаюць праз свой клюб цёлку, сьвінку, авечку, але з умоваю, што вернуць узятае ад прыплоду.

Хто з дзяцей бярэ, напрыклад, гадаваць сьвінку, дык бацька гэтага дзіцяці дае падпіску, што ад першага ці ад другога прыплоду верне клюбу дзьве сьвінкі, а клюб у свой чарод аддасьць другім дзецям з тэй-жа ўмовай.

Натуральна, што ў адным і тым-жа павеце клапацяцца разводзіць жывёлу аднэй пароды.

## Экскурсіі.

Дзіцячыя сельска-гаспадарскія клюбы ў Амэрыцы, апрача месячнага паседжаньня, ладзяць яшчэ і клюбныя экскурсіі. Гэтыя экскурсіі надта цікавыя і карысныя для дзяцей.

Экскурсіі ладзяцца адзін раз у год, улетку. Выбіраецца мейсца і ў вызначаны дзень сходзяцца сябры клюбаў з цэлага павету. Тутака дзеці праводзяць па 3—6 дзён, спраўляюць гульні, слухаюць рэфэраты, самі сабе вараць страву!..

На гэтых экскурсіях, апрача павятовага агранома і клюбных лідэраў, заўсёды бывае хто-небудзь з міністэрства зямляробства, ці які знаўца сельска-гаспадарскага пытаньня.

Правадыры экскурсіі прыкладаюць усю сваю стараннасьць, каб дзеці ня нудзіліся, былі вясёлымі і зацікаўленымі практычнымі рэфэратамі. Апрача таго, відочнымі прыкладамі рупяцца пазнаёміць дзяцей з новымі мэтадамі гаспадарскае і зямляробскае працы, усялякімі парадамі падгатаваць іх на клюбную выстаўку ў восені, ужо не гаворачы пра тое, што на кожным кроку зварачаецца ўвага дзяцей на іх будучыну, на тую роль, якую яны павінны заняць у жыцьці вёскі, як і ў жыцьці самога гаспадарства.

Калі сярод дзяцей ёсьць дзяўчаты, дык ім удзяляецца асобны рэфэрат, які абхоплівае пункты:

1) Знаёмства дзяўчат з асабістай і хатняй гігіенаю.

2) Выклад аб ядзе, якую страву больш усяго патрабуе наш арганізм.

3) Выклад аб унутраным прыбіраньні хаты і хатніх рэчаў.

4) Парады ў прыпадку хваробы або якога няшчасьця.

## Выстаўкі і нагроды.

Кожны год у восені ладзяцца дзіцячыя выстаўкі. У гэтай выстаўцы абавязкова для ўсіх чыста сяброў прыняць учасьце.

Выстаўкі ладзяцца ці ў сваім павеце, ці разам з якой небудзь дзяржаўнай выстаўкай (count vz state fairs).

Калі выстаўка мяйсцовая, дык заўсёды ладзіцца ў памешканьні сельскае школы.

На гэтых выстаўках уважна праглядаецца дзіцячы вытвор і раздзяляюцца нагроды.

Толькі дзецям не даюць нагроды грашмі. Больш усяго даюць якія небудзь карысныя рэчы, маладую жывёлу, хатняе птаства, або дарма пасылаюць на сельска-гаспадарскія курсы.

Трэба заўважыць, што кошт на гэтыя дзіцячыя нагроды даюць, выключна, усялякія грамадзянскія ўстановы, банкі, або заможныя асобы. Амэрыканская ўлада не дае ані цэнта.

## А ў нас?

Што дзіцячыя сельска-гаспадарскія клюбы ў Амэрыцы маюць вялікае значэньне ў жыцьці і разьвіцьці амэрыканскага зямляробства, дык аб гэтым нават ня прыходзіцца ўспамінаць.

Цяпер пытаньне, ці магчыма ў нас на Беларусі адчыніць падобныя клюбы?

Бязумоўна, што магчыма. Толькі ў арганізацыі гэтых клюбаў трэба зрабіць нейкія зьмены, хоць-бы

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Канец забастоўкі ў Лодзі.

Пасьля раду канфэрэнцыяў з работнікамі і прамыслоўцамі ўраду ўдалося дабіцца таго, што абедзьве стараны прынялі прапазіцыю стварыць арбітражную (разьемчую) камісію, якой будзе даручана зьліквідаваньне канфлікту. Рашэньне камісіі будзе аканчальным.

Цікава, што лодзкая мястовая рада выступала ў абарону работнікаў.

### Працэс у справе замаху на Прэзыдэнта.

У часе судовага сьледзтва ў справе абвінавачанага ў замаху на п. Прэзыдэнта львоўскага студэнта-сіоніста Штэйгера, які быццам кінуў у часе пабыту п. Вайцехоўскага ў Львове пэтарду ў павозку апошняга (якая не разарвалася; пэтарда — ня бомба, і толькі страшыць гукам, але няшкодна), выкрылася, што запраўднымі спраўцамі замаху былі нейкі Панчышын і Фэдык—украіоцы і... камуністы, а Штэйгер, як ён і кляўся ды, як сьведчылі ўсе, ведаўшыя яго, як сіаніста, зусім нявінны.

Фэдык уцёк у Радавую Расею, а Панчышын вёў пасьля агітацыю сярод жаўнераў у Калішу, ды таксама ўцёк за Фэдыкам (у тэй-жа заметцы сказана, што... і ён арыштаваны сьледчым!).

### Расстрэлы.

30.XI даразны суд у Роўным засудзіў на расстрэл Захарчука Сяргея з в. Галавіны, Валынск. пав. Захарчук раніў са стрэльбы казённага лясьніка. Просьбу аб памілаваньні п. Прэзыдэнт адкінуў.

4.XII даразны суд у Роўным засудзіў на расстрэл Марка Устэмпчука за тое, што той аграбіў у лесе жыда Крыжа на 20 руб. золатам, пагражаючы яму і яго бацьку забойствам.

П. Прэзыдэнт таксама просьбу аб памілаваньні адкінуў.

### Яшчэ крэсавы „rzecoznawca“—міністрам!

Львоўскі адвакат Левэнгэру, які разам з п. п. Стан. Грабскім і Тугуттам у вядомай „камісіі экспэртаў“ („Кам. 4-х“) укладаў „уставы языковыя“, мае быць назначаны, як даведаўся „Kur. Warsz.“, віцэ-міністрам унутр. спраў.

З гэтага мы можам зрабіць вывад, што у, такзванай, „справе крэсаў“ галоўную ўвагу, (калі ня выключную) ўрад зьверне на ўкраінскія „Крэсы“, а перад усім—на Галіччыну. А Беларусь пакуль што можа яшчэ пачакаць.

### Кангрэс „Пястоўцаў“.

7.XII распачаўся ў Варшаве агульна-польскі зьезд партыі „Пяста“. Зьехалася 220 дэлегатаў. Вітас будзе казаць аб палітычнай сітуацыі ў Польшчы. Дэмбскі — аб заграмічнай палітыцы.

## Заграніцай.

### Скарга літоўскіх палякоў.

Камітэт палякаў-эмігрантаў з Літвы падаў у Лігу Народаў скаргу, у якой абураецца на прасьледаваньні нацыянальных меншасьцяў у Літве. Ад 15/XI мае сілу новы закон, які забараняе карыстаньне матчынай мовай у публічным жыцьці. Ад Нов. Году ўвойдзе ў жыцьцё новы закон аб тым, каб уся рахунковасьць прыватных установаў —таргових і прамысловых — вялася ў літоўскай мове. Літоўскія ўлады дазволілі зьнішчажэньне нават... польскіх надпісаў на крыжох у Кейданах.

Запраўды абураючыя рэчы, калі гэта—праўда! Але літоўскі ўрад, паводле прыкладу Польскага,—хай вышле ў Лігу нейкага спрытнага і лёгкага на язык пана Скшыньскаўскага, які запэўніць высокую Раду, што ўсе меншасьці ў Літве—„маюць нават больш, як вымагаюць трактаты...“ і г. д. „Бабка пеняет, что дедка воняет“, але ад самой—ні дыхнуць, як кажуць расейцы...

### Урадовы крызіс у Латвіі.

З прычыны адмовы сац.-дэмакратаў стварыць габінэт, прэзыдэнт рэспублікі запрапанаваў злажыць урад правадыром сялянскай партыі: Мееровіцу і Клівэ, якія і ўзяліся за гэтую працу, пачаўшы перагаворы з „суседнімі“ партыямі.

### Арышты эстонскіх грамадзян у ССРР.

Паводле вестак (ПАТ-у) з Петраграду, радавыя ўлады пачалі арыштоўваць эстонскіх грамадзян, якія жывуць у ССРР, каб пасьля абмяняць іх на засуджаных у Рэвэлю 149 камуністаў.

### Троцкі—паслом у Турцыі (?)

З Бэрліну пішуць, што радавы ўрад запрапанаваў Троцкаму становішча пасла ў Турцыі.

### Рэпрэсіі проці камуністаў у Францыі.

У Парыжу зроблена шмат обыскаў сярод чужаземцаў-камуністаў, 47 арыштаваных перададзены сьледчай уладзе.

Франц. газэта „Матэн“ („Раніца“) піша, што Чэмбэрлен меўся абгаварыць з Эрыо, паміж іншым, і тыя меры, якія абодвы ўрады маглі б згодна і супольна прыняць — дзеля барацьбы з бальшавіцкай небясьпекай...

Рада міністраў адобрыла даклад мін. ўнутр. спраў, які запрапанаваў рад рашучых мераў дзеля барацьбы з „наступам камунізму“... Пастаноўлена забараніць камуністычную прапаганду, ня прымаць назад на службу звольненых служачых-камуністаў, камуністы-чужаземцы будуць высланы заграніцу.

### Арышт францускага камуніста Садуля.

Францускі камуніст капітан Садуль, засуджаны завочна францускім судом на сьмерць за дзяржаўную здраду і, ўцёкшы ад суда ў ССРР, дзе паступіў у чырвоную армію, — прыехаў ужо, як урадовец радавага пасольства, у Парыж... Але ўрад п. Эрыо, даведаўшыся аб гэтым, загадаў паліцыі прыпілнаваць яго і арыштаваць,—што і было зроблена. Садуль пасаджаны ў ваенную турму—на рэжым засуджаных на сьмерць... Радавы ўрад падаў энэргічны пратэст...

### Нота англійскага ўраду Лізе Народаў.

Сэкрэтарыят Лігі Народаў атрымаў ноту англійскага ўраду ў справе пратэктарату Англіі над Ягіптам (не „незалежнасьць“!), у якой заяўляецца, што англійскі ўрад будзе лічыць варожым усялякае ўмяшацельства трэцяе дзяржавы ў Ягіпецкую справу,

### Балдвін аб канфлікце з Ягіптам.

У вялікай прамове на сабраньні партыіі Балдвін заявіў, што няпраўда кажуць, быццам Англія хоча скарыстаць з забойства ген. Стэна, каб зусім скасаваць самастойнасьць Ягіпту і ізноў абвясьціць над ім даўнейшы пратэктарат (апеку). Урад будзе імкнуцца да таго, каб мірным шляхам уладзіць інтарэсы абодвых дзяржаў.

### Новая ягіпецкая змова.

Англійскае афіцыяльнае агенства паведамляе, што ў Ягіпце паліцыя запраўды напала на сьлед змовы, якая мела думку зрабіць рад замахаў на англійскіх міністраў у Лёндане.

### Паразуменьне Чэмбэрлена з Эрыо.

Афіцыяльна абвешчана, што на нарадзе Чэмбэрлена з Эрыо ў Парыжу дайшлі да паразуменьня па цэламу раду найважнейшых спраў.

### Марокко за Ягіпет.

Тое, што наша газэта прадбачыла колькі тыдняў назад, разыгрываецца, як па нотам.

На спатканьні ў Парыжу Чэмбэрлен заявіў Эрыо, што Англія вельмі ўдзячна Францыі за яе пазіцыю ў справе Ягіпту, і запэўніў франц. прэм'ера, што і Англія, з свайго боку, будзе вясьці сябе зусім таксама карэктна, адносна да Францыі ў падзеях, якія могуць разыграцца ў Марокко.

Англійскіі міністар дадаў, што Англія, калі ён добра азнаёміцца з справай тых гарантыяў, якіх дамагаецца Францыя,—зробіць усё магчымае, каб Францыя чула сябе зусім бясьпечнай.

### Правакатары Пашыча працуюць!

Урад Пашыча, які з усіх сілаў хоча справакаваць паўстаньне ў Харватыі (якое быццам хацеў падняць Радіч!),—каб мець магчымасьць разграміць край, патроху дабіваецца свайго. У Харватыі ўжо льецца кроў, кроў маладзейшае харвацкае інтэлігенцыі — студэнтаў.

Справа ў тым, што ўрад выгнаў „са службы“ з Загрэбскага ўнівэрсытэту ўсіх тых прафэсароў, якіх народная харвацкая партыя паставіла наставіла на свае выбарныя сьпіскі. Проці гэтага востра запратаставалі студэнты. Адбыўся вялікі сход студэнтаў, які прайшоў зусім спакойна, ня гледзячы на некалькіх сэрбскіх правакатараў. Але, як гэта бывала заўсёды ў царскай Расеі, паліцыя і войска акружылі гмах унівэрсытэту і, калі студэнты пачалі выходзіць, кінуліся іх біць.

Узьнялася паніка, раздаліся стрэлы, 3 студэнты забіты, шмат раненых.

Вестка аб тым, як маланка, разьнясласяпа месту (сталіца Харватыі — Загрэб). Усё насяленьне, як паводка, вылілася на вуліцы. Пачалі будаваць барыкады...

Сэрбскае войска пачало страляніну ў пратастуючыя масы народу. Далі некальк залпаў. У выніку — шмат ахвяр забітымі і раненымі.

А пасьля „перамогі“ — пачалася гульня паліцыі і жандармэрыі. Відаць, — тое, чаго не здалеў зрабіць Радіч, зробіць Пашыч.

### Даверые Мусоліні.

Сэнат прыняў 206 галасамі проці 54, пры 35 устрымаўшыхся ад галасаваньня, формулу, адабраючую ўнутраную палітыку ўраду, ад імя якога Мусоліні паставіў востра пытаньне аб даверы.

# Хроніка.

**Хто ўласьнік Базыльянскіх муроў?** Гэтае пытаньне мае вырашыць віленскі акружны суд на засяданьні 30 гэтага сьнежня.

Як ведама, спор ідзе паміж праваслаўным духавенствам і польскім урадам, бо апошні „знацыяналізаваў“ муры, апіраючыся на дэкрэт, каторы ў гэтым прыпадку не павінен мець сілы.

**У Беларускім Студэнцкім Саюзе.** 30 лістапада адбыўся Агульны Сход Студэнтаў Беларусаў. Выбраны Новы Урад Б. С. С. старшыня — М. Марцінчык, віцэстаршыня—Л. Зянюк, пісар — Б. Грабінскі, скарбнік— І. Гагалінскі і вольны сябра—Я. Лабенец. Сэкратарыят Б. С. С.—Віленская 12—6—адчынены ў аўторкі і суботы ад 4 да 6—бібліатэка ў чэцьверы ад 4 да 6.

**У Віленскай Духоўнай Сэмінарыі.** У папярэднія гады ў Віл. Дух. Сэмінарыі істнаваў вучнёўскі беларускі культурны гурток. Была бібліатэка з кніжак у беларускай мове. Чыталі рэфэраты, і пастаўлены былі некалькі спэктакляў.

У сёлетнім школьным годзе, калі рэктарам заступіў япіскап Антоні, раптам беларускі гурток разваліўся.

Якая прычына? Ці можа вучні выракліся свайго роднага, ці што іншае прашкодзіла?

Вось-жа прычына спыненьня гэтае працы ляжыць у асобах адміністрацыі сэмінарыі. У пачатку школьнага году было аб'вешчана, што гурток можа істнаваць **польскі ці расейскі, але ні пад якім варункам беларускі.** Але мала гэтага—адміністрацыя яшчэ забараняе чытаць беларускія газэты, і вучні, якія чыталі і заўважаны ў гэтым, пераведзены ў інтэрнат (які істнуе пры Сэм.), каб тут ужо зусім выкараніць беларускасьці дух.

Калі вышэйшай духоўнай уладай было прыказана бацюшкам адпраўляць службу ў царквох пановаму, дык ніхто не хадзіў, і калі сьвяньцілі гумны, то ўжо мала хто нёс жыта. Калі выпусьцяць такіх бацюшкаў, якія будуць гутарыць папольску, дык напэўна ніхто не панясе.

**„Адміністрацыйная рэформа“.** Мястэчка Бінякові, якое дагэтуль было парэзана на 2 часткі: усходняя яго частка належала да Ашмянск. пав., а заходняя з станцыяй — да Лідзкага пав., Наваградзкага ваяводства, — цяпер, па дакладу ваяв. Рачкевіча, перапісываецца ў Наваградзк. ваяв. цалком, — разам з усімі вёскамі, якія ляжаць на захад ад ракі Жызны.

Рэформа ўваходзе ў жыцьце ад Новага Году.

**Паліцэйская кавалерыя пана Банькоўскага.** Мы калісьці паведамлялі нашых чытачоў аб тым, што места Вільня мае аж 350 конных паліцыянтаў, дзеля ўтрыманьня якіх жыхары Вільні павінны адымаць не адзін кусок хлеба ці мяса ад сваіх дзяцей. Але — на што гэтая паліцэйская кавалерыя ў месьце патрэбна, мы ня ведалі...

Цяпер мы даведаліся з „Dz. Wil.“, што гэтая кавалерыя была выслана ў сваім часе з Вільні на правінцыю... і толькі цяпер, атрымаўшы з Варшавы „вялікую сколькасьць каней“, мае вярнуцца назад у Вільню.

У ва ўсім гэтым вельмі цікава: 1) дзе-ж падзелі п. кавалерысты „сваіх“ (купленых за мястовыя грошы) каней, што аказалася патрэбным з Варшавы атрымліваць новых? і 2) ці места Вільня плаціла за тую паліцыю, што была ў правінцыі, праз увес няведамы час? — ня тое, каб было шкода, што яе тут ня было, але — так сабе — цікава...

**Папраўка.** У № 16 „Сял. Праўды“ ў карэспандэнцыі з Горадзеншчыны „Шукай Праўды, дзе хочаш“ былі зроблены наступныя памылкі: судзьдзя ні Боркоўскі, а Попкоўскі, коні п. Сабалеўскага зьелі не $1^1/_2$ м., а $^1/_2$ морга аўса і Макуліку ні Рыгару, а Юрцы; зямлю, якую забраў п. Сабалеўскі, купілі сяляне не пад пасьвішча, а пад хлебаробства.

---

ўжо дзеля таго, што мы ня маем столькі грошы, колькі іх мае Амэрыка.

Сусьветная вайна шмат зрабіла шкоды для сялянскай Беларусі, разварушаны хаты, зьніштожана жывёла, гаспадарка засталася без гаспадара, гаспадар без гаспадаркі. Скрозь адчуваецца рука нядаўняга вар'яцтва і шалу!

Беларусі трэба шмат сілы і грошы, каб ачухацца ды ўстаць на ногі.

Праўда, скрозь ужо на Беларусі чуваць молат, зьвіджыць піла, тапары сякуць, але праца гэтая, на жаль, пакуль што не аб'яднана: бо то тут удара молат, то там пачуецца піла... клум бязумоўна стаіць, толькі карысьць ад таго пакуль што ня надта вялікая.

Вось тут-то, як мне здаецца, і пасабілі-бы дзіцячыя сельска-гаспадарскія клюбы нашай агульнай справе.

Праз гэтыя дзіцячыя клюбы зусім магчыма ня толькі правясьці ў жыцьцё сучасную веду ў сельска-гаспадарскіх справах, але і ўзгадаваць дзяцей добрымі грамадзянамі, таксама разьвіць на вёсцы каапэратыўны дух, які заўсёды служыў і будзе служыць зьвяном хаўрусу, жыцьця і таварыскасьці, ужо ня кажучы, што гэты дух яшчэ дасьць магчымасьць разьвіць у кожным дзіцяці характар і ініцыятыву. Ды дзіцячыя клюбы ў беларускай вёсцы будуць мець значэньне ня толькі сельска-гаспадарскай, але і культурна-прасьветнай установы.

Трэба толькі, каб кожны беларус шчыра паклапаціўся ў кірунку гэтае справы.

Дый грошы можна будзе неяк спагнаць... няпраўда, што ніхто не адклікнецца: толькі кіньце кліч!..

Вось я і зварачаюся да ўсіх чыста беларускіх дзеячоў, а разам і да Беларускае Школьнае Рады, з заклікам уважна абмеркаваць і абгаварыць, што і як зрабіць, каб завясьці дзіцячыя сельска-гаспадарскія клюбы на Беларусі.

**М. Запольскі.**

*Югаславія, 1924 г.*

# Пастановы канфэрэнцыі у справе „Крэсау“.

„Dz. Wil.“ атрымаў з „miarodajnych“ крыніц інфармацыі аб тым, што пастанавіла апошняя канфэрэнцыя крэсавых ваяводаў з цэнт. ўладамі ў Варшаве ў справах „Крэсаў“.

Вось галоўныя з гэтых пастановаў:

### 1. Корпус пагранічнікаў будзе пад загадам ваяводаў.

Аддзелы Корпусу пагранічнікаў будуць аддадзены ў поўнае распараджэньне ваяводаў, у руках якіх будзе гэткім чынам сканцэнтравана ўся акцыя „bezpieczeństwa“ у ваяводзтвах.

### 2. З соймікаў будуць зьняты цяжары.

Будуць зроблены падаткавыя палёгкі, а перад усім маюць быць зьменшаны тыя выдаткі, якія ўскладаліся ўладай на пявятовыя соймікі—у крэсавых ваяводзтвах, якія аж 40 проц. (амаль не палову!) свайго бюджэту аддавалі на ўтрыманьне паліцыі... Ад новага году гэтыя выдаткі маюць быць зраўнаваны з тымі, якія істнуюць у Польшчы. Частку расходаў на паліцыю возьме на сябе скарб.

### 3. Ня будзе „вынятковага стану“, але спэцыяльная „Ustawa“...

На падставе пастановы Зьезду, гэтымі днямі будзе выданы ўрадам (?) устаў (?) аб абароне пагранічча, у якім будуць зьмешчаны „przepisy“, рэгулюючыя адносіны ўладаў да насяленьня ў пагранічных паветах... (?)

„Устаў гэты ў некаторай меры заступіць увядзеньне вынятковага стану на ўсходніх землях...

Відаць, чуткаму на „заходняе вуха“ п. мін. Тугутту йдзе толькі аб тое, каб ня было назову—„szyldu“—з надпісам: „усиленная охрана“, але, калі гэтую апошнюю „заступіць“ нешта па сутнасьці аднароднае, дык—нічога. Дый нават яшчэ ляпей,—бо „выняткови стан“ трэба правясьці праз Сойм, а гэткі „Устаў“ можа (?) выдаць і ўрад—па „пастанове ўсходніх ваяводаў“.

### 4. Паліцыя яшчэ будзе павялічана!

Замест пачатнае пастановы, колькасьць паліцыі, якая была пакінута ў прыгранічных паветах пасьля замены яе аддзеламі пагранічнікаў, ня будзе зьменшана, а ў мяйсцовасьцях, дзе істнуе асаблівая небясьпека ад бандытаў, будзе яшчэ павялічана новымі атрадамі.

### 5. Стварэньне Маладзечанскага павету.

Па прапазіцыі віленскага ваяводы п. Рачкевіча яшчэ перад Нов. Годам будзе зроблены новы павет—Маладзечанскі, да якога будуць далучаны з Наваградзкага ваяводзтва 2 гміны — Пяршайская і Ракаўская. У п. Рачкевіча ўжо ёсьць і гатовы староста—нейкі п. Ходакоўскі, б. стар. Ашмянскі...

Ці не для яго асабіста і будзе праведзена ўся гэтая першая „рэформа адміністрацыі“ на „Крэсах“?..

### 6. Дапамогі для самаўрадаў.

Міністэрства ўнутр. спраў, ацэніваючы ўсю важнасьць самаўрадавых установаў на Крэсах (якіх яшчэ няма...), пастанавіла прыйсьці на помач у іх культурна-асьветнай працы (польскай!)—матар'яльнымі засілкамі.

### 7. П. Тугутт прыедзе ў Віл

У зьвязку з гэтымі пастановамі, прыяжджае ў Вільню сам віцэ-прэм'ер Тугутт, каб на мейсцы пазнаёміцца з „całokształtem“ крэсавых справаў.

# Карэспандэнцыі.

## Катаваньне сялян.

(*Вёска і вол. Шэні, Пружанскага пав.*).

18-га кастрычніка г. г. адзін селянін з вёскі Шэні, Антон Клім, з сваім 13-летнім сынам панёс у м. Пружану дубцы (вярбу) прадаваць, (бо якраз было жыдоўскае сьвята, калі ім патрэбна вярба). Прынёс да жыдоўскае школы і сеў, палажыўшы вярбу. У гэты час падышоў да яго якісь „пан“ і, запытаўшы яго, хто ён ёсьць, стаў рабіць вобыск па кішанёх. У кішанёх ён нічога не знайшоў, а толькі ў аднэй ляжаў ланцужок, даўжынёй у 1 мэтр, якім была зьвязана вярба. Гэта якраз было пад руку „пану“, бо яму трэба было пакатаваць няшчаснага беларуса.

„Пан“ выцягнуў з кішані гэты ланцуг і пачаў біць ім А. Кліма па чым папала. Але зараз-жа дагадаўся, што праз кажух і сьвіту ня так даскуліць „хлопу“, „пан“ садраў з плечаў селяніна гэту вопратку і пачаў ізноў катаваць яго, прыказаўшы йсьці з ім на пастарунак. Усю дарогу ў працягу 1 кілямэтра „пан“ катаваў селяніна ланцугом па сьпіне і нагою ў сьпіну, калі той пад час ад болі прыставаў па дарозе. „Прыцягнуўшы“ на пастарунак, „пан“ прыказаў А. Кліму разуцца. Ськінуты быў чобат, якім „пан“ пачаў біць па галаве і твару селяніна, прыказваючы: „ты знаешь

# Сплау лесу у Віленшчыне.

„Słowo“ падае цікавыя цыфры аб гандлю лесам у Віленшчыне, які значна падупаў пасьля ўвядзеньня ўрадам высокіх правозных тарыфаў.

Газэта стаўляе побач лічбу тоннаў сплаўленнага дрэва за 1923 і 1924 гады.

За 1923 год сплаўлена дрэва:

| па рэкам: | будаўлянага | абробленага | на апал |
|---|---|---|---|
| Вяльлі . . . . | 33,619 | 30 | 28,209 |
| Жэймяне . . . | 18,813 | — | 7,918 |
| Сэрвэчы . . . . | 200 | — | 650 |
| Нарочы . . . . | 1,435 | — | 1,040 |
| Рыбчанцы . . . | 4,704 | — | 1,075 |
| Ашмяне . . . . | 625 | — | 450 |
| Вялейцы . . . . | 650 | — | 85 |
| Разам . . . | 60,046 | 30 | 40,237 |

За 1924 год:

| па рэкам: | будаўлянага | абробленага | на апал |
|---|---|---|---|
| Вяльлі . . . . | 21,230 | 606 | 19,564 |
| Жэймяне . . . | 1,935 | — | 7,166 |
| Сэрвэчы . . . . | 600 | — | 250 |
| Нарочы . . . . | 412 | — | 270 |
| Рыбчанцы . . . | 2,740 | — | 1,650 |
| Ашмяне . . . . | — | — | — |
| Вялейцы . . . . | — | — | — |
| Разам . . . | 26,915 | 606 | 28,900 |

Калі да гэтага дадаць яшчэ каля 10—15 тысячаў тоннаў дрэва, якое будзе сплаўлена да канца сплаўнага пэрыяду, дык, кажа „Słowo“, сёлетні сплаў будзе прадстаўляць толькі тры чверці леташняга.

Аднак, як кажуць, няма ліха без дабра: бо ўсё-ж такі больш лесу ў нас захавалася ад зьнішчэньня, дый узрос вываз абробленага дрэва ажно ў 20 разоў. Гэта значыць, што пры абрабляньні гэных 606 тоннаў дрэва мелі заробак тутэйшыя работнікі.

кто я? я товарищъ!“ Але і гэтым „пан“ не здаволіўся. Узяўшы той ланцуг, ён пачаў цёрць ім па насу і вачох няшчаснай ахвяры. Нацешыўшыся,назьдзекаваўшыся над селянінам, яго зраненага, залітага крывёй, звольнілі, бо не знайшлі нават і слоў, каб напісаць пратакол.

„Пан кат“ быў у вольнай вопратцы і, калі зьвяртаўся з запытаньнем да якога паліцыянта, дык кожды ставаў яму на „baczność“.

Пасьля гэтага, скатаваны беларус пашоў да доктара, які выдаў яму пасьведчаньне, якое ён аднёс да Пружанскага староства. Ня ведама, што прымусіла „пана ката“ прыбегчы ў той час у Староства, але тут-жа ён стаў прасіць селяніна, каб ён яму прабачыў за пабоі.

У старостве парадзілі А. Кліму „прабачыць“ таму „пану“, які зараз-жа выняў з кішані 25 злотых і даў скатаванаму селяніну, сказаўшы, што яшчэ дасьць 5 злотых.

Бедны селянін мусіў узяць гэтыя грошы, парадзіўшы сабе, што будзе хоць на лекі.

Дык вот ужо тры нядзелі, як скатаваны бяз прычыны Клім ляжыць у пасьцелі і яшчэ можа і асьлепне. А гдзе-ж ляжыць пасьведчаньне аб катаваньні?.. гэтага ніхто з беларусаў не пабачыць, бо яно пад тоўстым сукном у Пружанскім старостве.

**Пружанец.**

## Хто вінен?

(*З Слонімшчыны*).

Як кажуць: „пень велькі, а дурань“. Гэта даволі праўда. Гэтае прыслоўе як раз падыходзіць да аднае вёскі Дзятлаўскай гміны. Вёска гэтая досыць вялікая, маець больш 200 хат. Здаецца так, чым большая грамада, дык тым больш павінна ў ёй быць розуму, сілы і грамадзкага здароўя; але не. Здаецца і ёсьць там старыя мужчыны, каторыя нат і даволі граматныя, і, здаецца, разумныя і на сходзе добра ўмеюць пасварыцца і так пакрычаць, але з гэтых сварак нічога карыснага ня выходзіць. Гавораць, гавораць, а справы рознага роду, як стаялі на месцы, дык і цяпер акамянеўшы стаяць. Чаму гэта?

Гэты застой грамадзкага жыцьця, ня толькі гэтае вялікае вёскі, але, наагул, усіх вёсак навакол выражаецца ў тым, што кіраўніцтва гэтаю жывою сілаю аддадзена асобам, каторыя, маючы на мэце пажыву, ані ня рупяцца хаця аб мінімальным палепшаньні жыцьця ў тых галінах, якія ад іх залежаць. Але і з гэтым можна б было рахавацца, калі-б Дзятлаўскі камандант пастарунку трохі ясьней зірнуў на тое зло, якое вынікае з гарэлкі!

Нямашака там тае ўдавы (а іх там шмат), каторая б ня трымала гарэлкі! А папытайцеся, колькі яны бяруць за бутэльку? Аж па 4—5 мільёнаў марак, Гэтаю гарэлкаю карыстаюцца ўсе: хлопцы, мужчыны і... нат бабы!

Прыдзець сьвята, дык і ходзіць арава хлапцоў па вуліцы шукаючы месца, гдзе-б заваліцца і прапіць астатні мільён ці злот. Чаму? а таму, кажуць яны, што нямашака гдзе падзецца.

„Пачытайце газэту!“ — „Пачытай, калі табе хочацца Слоніма паглядзець“, — адказваюць мне хлопцы; — „не, ляпей мне за свае грошы выпіць!“

П'юць адну бутэльку за аднэй, бутэлькі трашчаць, пачынаецца буйны разгавор, нягодныя песьні, а за імі сваркі і... бойкі!

Назаўтрае сход... Солтыс аб'яўляе, што гміннага падатку столькі-то, сойміковага столькі-то, страхоўкі... „Даволі! даволі“! — крычаць яны, — „хай іх пярун спаліць, хай іх восьвяці перасьвецяць!“

Прыходзяць бацькі да хаты, лаюцца, крычаць і нат б'юцца з сынамі і дакараюць адзін аднаго ў п'янстве.

. Вёска прапівае свой розум. Назаўтрае паліцыя ведаець, што быў сход і што крычалі пра велічыню падаткаў. Зараз-жа выходзіць, што ў гэтай справе вінаваты газэты беларускія!

Пане асьпіраньце, я-б хацеў зьвярнуць вашую ўвагу на тое, што, — замест нішчыць беларускую газэту, папытайцеся ў таго, што вам заяўляець, хто чытае і выпісвае беларускія газэты, і даведаецеся, што гэтыя людзі якраз і ня п'юць, і ня трымаюць „нелегальна“ гарэлкі.

**„Цьвярозы“.**

# Культурнае жыцьцё у Радавай Беларусі.

## У Беларускім Дзяржаўным Музэі.

Этнаграфічны аддзел музэю дапоўнен калекцыяй прадметаў матар'яльнай культуры беларуса, (галоўным чынам — хатнія і гаспадарчыя рэчы). Калекцыя гэта сабрана этнографам Д. Сяржпутоўскім у Аршанскім вокрузе ў гэтым годзе.

Ад студэнта мэдфаку БДУ Шутава атрыманы вялікі лік рэчаў дагістарычнай культуры насельнікаў Беларусі. Калекцыя гэта мае ў сябе шмат каменных сякер, скрабкоў, вельмі прыгожа абцясаных каменных наканечнікаў, стрэл і чарпакоў глінянай пасуды з рознымі арнамэнтамі.

Перададзеныя Шутавым у музэй рэчы сабраны ім на беразе Дняпра, каля Новага Быхава.

## Музычны тэхнікум.

Музычны тэхнікум у Менску пачынае ўдачліва арганізавацца. Атрымана ўжо з Масквы згода праф. Я. Прохарава і кампазытара Аладава на пераезд іх у Менск для выкладаньня належных навук у тэхнікуме. Двое з прафэсараў зачыненага ў Віцебску музык. тэхнікуму згадзіліся таксама на пераезд у Менск. Наплыў жадаючых вучыцца ў музычным тэхнікуме нязвычайны. Можна спадзявацца, што прафэсура маладога тэхнікуму і здольныя з моладзі — вучняў — пакладуць належную працу, каб працаваць над беларускай музыкай, што дасьць з гадамі магчымасьць заснаваць так патрэбную беларускую кансэрваторыю.

## Беларускасьць у Віцебску.

Пры Віцебскай паштова-тэлеграфнай канторы працуюць курсы беларускай мовы для паштова-тэлеграфных работнікаў Віцебску.

— Праўленьне Віцебскага аддзелу саюзу працаўнікоў асьветы пастанавіла да сакавіка 1925 г. перавясьці на беларускую мову дзелаводзтва ўсіх установаў саюзу на Віцебшчыне.

— Пры Віцебскім Доме Працаўнікоў Асьветы істнуе цэлы шэраг розных гурткоў. Цяпер працуе 6 гурткоў дзеля вывучэньня беларускай мовы, па 40 чалавек у кожным. Вядзецца запісь у сёмы гурток. Асьветнікі вельмі цікавяцца беларускаю літэратураю. Выпускаецца насьценная газэта „Настаўніцкі шлях“, напалову беларуская.

# Усячына.

## Перасылка партрэтаў па тэлеграфу бяз дротаў.

1 сьнежня ў Лёндане была зроблена спроба пераслаць у Нью-Іорк партрэт каралевы па тэлеграфу бяз дроту — пры помачы апаратаў амэрыканскага інжэнера Ранжэра. Спроба ўдалася дужа добра: вялікі партрэт, пастаўлены перад апаратам у Лёндане, у працягу 20 мінут быў адбіты на апараце ў Нью-Іорку.

Амэрыканская фірма, якая рабіла спробу з новымі апаратамі, заяўляе, што мае такія тэлефоны бяздротныя, што, гаворачы з некім праз тэлефон, можа будзе бачыць за сотні вёрст таго, з кім гаворыш. Аднак, гэтыя апараты йшчэ лішне дарагія дзеля агульнага ўжытку.

# Паштовая скрынка.

**Н. Іваноўскаму.** „Бывайце здаровы“ друкаваць ня можам дзеля „незалежных прычын“...

**А.** з Лазовай, у Вялейшчыне. Аб хуліганстве „патрыёта“ ня друкуем, бо ці-ж гэта навіна?

**Галоднаму** ў Маладэчне. Пра жыцьцё работнікаў пры будоўлі казармаў мы ўжо пісалі. Старайцеся, каб яны добра з'арганізаваліся, і тады пацешце нас добрай навіной!

Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік**.

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.